СВЯТЛАНА БАСУМАТРАВА

# КВЕТКІ ПАЛЯВЫЯ

КНІГА ПАЭЗІІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

* * *

Галадоўка і ссылка,
Данос і турма —
Гэта зведалі прадзеды
Поўнаю мераю.
І маленькая іскра
Не згасла дарма —
Верую.

Мне б усю прыгарнуць
Дарагую зямлю,
Ад зазімкаў сівую,
Ад попелу шэрую.
У жывое зярнятка,
Што легла ў раллю —
Верую.

Нібы Золушка,
Што перад шлюбным вянцом
Чаравічкі крыштальныя
Радасна мерае,
Ў старадаўнюю казку
З шчаслівым канцом —
Верую.

Ззяе зорка Антарас
Святлом трапяткім,
Дзіўны водбліск кідае
На вільгаць аерную.
У чырвоную зорку
Над лёсам маім —
Верую.



Свет, жывы і непаўторны,
Блізкі і незразумелы.
Лебедзь белы — лебедзь чорны,
Лебедзь чорны — лебедзь белы.

Постаць цёмная узлесся,
Небасхіл амаль бяззорны,
Ноч — нячутна з паднябесся
Апусціўся лебедзь чорны.

Што каму начамі сніцца,
Хто каму ўначы пакорны —
Ўсе людскія таямніцы
Зберагае лебедзь чорны.

...Снег пялёсткаў над садамі,
Дзень прачнуўся прасвятлелы —
Гэта чуйнымі крыламі
Страпянуўся лебедзь белы.

Мары, справы і падзеі,
Творчай думкі пошук смелы,
Чалавечыя надзеі
Абуджае лебедзь белы.

Не чапай наш дол прасторны,
Паляўнічы звар'яцелы!
Хай лунае лебедзь чорны,
Хай спявае лебедзь белы.

Край хваёвы, край азёрны,
Мужны, войнамі збалелы —
Мой шчаслівы лебедзь чорны,
Мой высокі лебедзь белы.

## МІНУТА МАЎЧАННЯ

*Памяці Аляксея Пысіна*

Яму б лясными сцежкамі прайсці,
Адчуць раптоўна подых навальнічны.
Шумяць трывожна сосны. Пры жыцці
Любіў ён слухаць шолах таямнічы.

Яму б у жыта цёплае ўвайсці —
Літое зерне на сцяблах паспела.
Хвалюецца і жыта — пры жыцці
Не ўсё пераказаць яму паспела.

Не згіне ў папяровым забыцці
Радок з адвечнай думкаю ягонай.
Схіліся, жыта,— ён жа пры жыцці
Саромеўся ўвагі і паклонаў.

Замрыце, сосны,— ён жа пры жыцці
Так мала зведаў цішы і спакою.
Мо галасы ўсіх тых, хто ў небыцці,
Пачуў і ён хвілінай вось такою.

З вайны, з юнацтва дымнага, здаля
Паклікалі сябры-аднапалчане.
Чутно, як цяжка дыхае зямля,
Ахутаная воблакам маўчання.

Маўчыць зямля травою і пяском.
Мінута цішыні на Прыдняпроўі.
У горле слёз нявыплаканых ком
Запозненым прызнаннем у любові.

* * *

Вайна пакінула калецтва —
Ў варонцы не расце мурог.
Зямля — дзяцінства чалавецтва,
Яго калыска і парог.

А за парогам — свет бясконцы,
Напаўабжытае жытло.
Там непрыдуманае сонца,
Што выпраменьвае святло.

Ды чалавек, скарыўшы стронцый —
Самой прыродзе вечнай брат.
Ён запаліў зямныя сонцы
На сотні тысяч кілават.

...Ізноў трывога наплывае,
А сэрца ные і баліць:
Няўжо ж усё, што асвятляе,
Аднойчы можа спапяліць...

* * *

Зямлянін-касманаўт, змяні кірунак
Над ззяннем промняў і смугою хмар —
Прымчы мне, дружа, здымак ці малюнак
Далёкай зоркі — зоркі маіх мар.

Чытала пра блакітную Венеру
І назірала я барвовы Марс...
Якога ж яна колеру й памеру
І кім абжыта, зорка маіх мар?

Мо й там увосень жоўтая лістота
Пад крокамі шамоча на траве.
Магчыма, й там разумная істота
Складае вершы, дыхае, жыве.

...Сабе сустрэчу дзіўную прарочу,
Як чэзне ў небе знічкі светлы след,
Калі кароткай летняй зорнай ноччу
Маё акно расчынена ў сусвет.

* * *

И звезда с звездою говорит...
М. Лермантаў

Крамяністы шлях смугой абліты.
«Зорка зорцы голас падае» [1].
Як трывожна — хто ты і які ты,
Той, хто спаць мне сёння не дае...

Узнікае трапяткая нота...
Пастаю ля веснічак адна.
Адзінота — гэта не самота,
Бо бывае светлаю яна.

Міг такі патрэбен чалавеку,—
Хтось нябачны хораша пяе.
З іншага сусвету ці то веку
Сэрца сэрцу голас падае...

---

[1] Радок М. Лермантава ў перакладзе А. Куляшова.

* * *

Сусвет качае шарыкі планет,
Нібы дзяўчынка яблыкі на ўлонні.
І чалавека заўтрашняга свет
У вечнасці маўклівай на далоні.
Чым будзе ён — шуганнем траў і рэк?
Жахлівай жменяй попелу сівога?
— Аб гэтым думай сёння, чалавек,
Усё залежыць ад цябе самога.

* * *

Рабін рубінавыя пацеркі
Зямной прыкметаю быцця.
Святая, як зямныя мацеркі,
Трымае на руках дзіця.

Да гэтай фрэскі старажытнае
Пад гулкім купалам царквы,
Да ўсімі мовамі абжытае,
Да хлебасольнае Масквы

Штодня спяшаюцца экскурсіі —
З далёкай Кубы і з Малі,
І магдэбургскія, і курскія —
Ўсё землякі — усе з Зямлі.

І зразумелы кожнай рыскаю
Без тлумачэння той сюжэт:
Дзіця... далоні мацярынскія...
Пагляд у заўтрашні сусвет...



Трывогі веку і загадкі дня,
Звышхуткасці, касмічныя прадонні...
А як дачушка пляскае ў далоні,
Убачыўшы звычайнага каня.

Хапала ўсім на выгане травы,
З жывёлаю умелі людзі ладзіць.
А як бясстрашна цягнецца пагладзіць
Дзіцятка цёплай грывы лён сівы.

І косіць вокам той прыціхлы конь,
І ззяюць у дзяўчынкі вачаняты.
І ў нечым падсвядома вінаваты
Сціскаеш ты дзіцячую далонь...

## ЗОРКА КУПАЛЫ

Светлая мара яго не прапала,
Яснаю зоркай гарыць над зямлёй.
Полем нябачна праходзіць Купала,
Дыхае прагна вясновай раллёй.

Чуе — звініць сенажацямі лета,
Бачыць — шуміць залатое жніво.
Свецішча твар дарагога паэта,
Роднасць усмешкі, крутое брыво.

Імя чытае сваё над будынкам,
Ў залу ўваходзіць, нябачны нікім.
Зноў над панамі смяецца Паўлінка,
Блізкую буру прадбачыць Якім.

Кветку шукаў на купалле Купала.
Шчасце народу хацеў падарыць.
Папараць-кветка, што з лесу прапала,
Зоркай Купалы на небе гарыць.

* * *

Дзень добры, людзі,— я прыйшла да вас
З маёй надзеяй, вераю, трывогай.
Спавітая бясконцаю дарогай,
Ляжыць вакол зямля, што корміць нас.

Зямля далёкіх продкаў і бацькоў,—
Яе пазнаеш па адметных рысках:
Па зорачках на простых абелісках,
Па незабыўных песнях землякоў...

Каб сонца промень да пары не згас,
Каб не знямела перапёлка ў жыце,
Зямлю сваю, як песню, беражыце!
З надзеяй, людзі, я прыйшла да вас.

## ПЕРАПЁЛАЧКА

Дзе спрадвечная багна
прыводзіла ў жах наваколле,
Дзе буслы будавалі
на дрэвах буслянкі вясной,
Там араў мужычок
неўрадлівае, чахлае поле
І за сошкай крывою
скупою ішоў баразной.

На плячах намакала
кашуля ад ліпкага поту,
Быў прывычны араты,
што з працы далоні смыляць.
Ён заводзіў журліва
ды ціхенька, быццам употай,
Што ў яго перапёлачкі
кволыя ножкі баляць.

А калі запалалі
пажары Вялікай Айчыннай,
Колькі гора было,
колькі ран і знявагі было.
Нёсся плач перапёлкі
над жытам сівым, над Айчынай —
Разбурылі гняздо,
абпалілі балюча крыло.

Па жытнёваму полю
імчаў, як па гладкай дарозе,
Прасаваў яго «тыграмі»
злосны няпрошаны госць.
Наш зямляк, партызан,
на прывале спяваў у трывозе,
Што ў яго перапёлачкі
дзеткі маленькія ёсць.

...Расцвітае зямля,
і сусвету не быць неабжытым.
І спакуса палёту —
мацнейшая з іншых спакус:
Паляцець над страхою,
над стромкай сасною, над жытам.
Паляцеў над планетай сваёй
касманаўт-беларус.

Ён — прасторы ўладар,
ён у вечным бяздонні нясецца.
Ды яго назаўсёды
звязала нябачная ніць
З тым куточкам зямлі,
што здаўна Белай Руссю завецца,
Дзе яго перапёлачка
радаснай песняй звініць.

* * *

Сціх лістапада каляровы дождж.
Яшчэ імгненне — снег зямлю атуліць.
Зацягне лёдам ціхі бацькаў Сож
І светлую Бярэзіну матулі.

Бялюткі снег — куды пагляд ні кінь.
Бялюткі снег, дакуль захопіць вока.
Ды не спыняе лёд рачную плынь.
Нябачная, ідзе яна глыбока.

Дзве родныя ракі, як дзве рукі,
Што абдымаюць гэты свет з любоўю,
Нясуць праз далячыні і вякі
Прабабчыны купальскія вянкі
І прадзедаў сівыя чаўнакі
Да слыннага Дняпра па Прыдняпроўі.



Грае вецер на сасне,
Як на дудачцы зялёнай...
Жыць на свеце не ўлюбёнай —
Гэткі лёс не для мяне.

То марозам дол кране,
То пад сонцам жыта спее...
Шчырым сэрцам жыць не ў спеве —
Гэткі лёс не для мяне.

Так заведзена з вякоў:
Ці сняжынкі, ці дажджынкі,
Ці зажынкі, ці дажынкі,
Чуеш песні землякоў.

З веку ў век і з роду ў род,
Ці радзіны, ці вяселле,
Тыя песні, як насенне,
Рассявае мой народ.

Рассявае з поўных жмень
Па мястэчках і па сёлах.
Ды ўсё больш бярэ вясёлых,
Невясёлых значна менш.

Ці духмяны сенакос,
Ці жніво ў шырокім полі —
Песні нашай яснай долі
Узыходзяць да нябёс.

Дарагія землякі,
Хай вам радасць адзавецца,
Хай жывецца, як пяецца,
На гады і на вякі!

## ПАМЯЦІ БАЦЬКІ

І ў вечным сне табе, напэўна, сніцца
Задумны Сож, і юная матуля,
І тая старадаўняя капліца,
Што маляваў Бялыніцкі-Біруля.

Няблізка ад мясцін тваіх дзіцячых,
Знаёмых берагоў і роднай хвалі,
Сярод палёў, стамлёных і гарачых,
Цябе ў спякотным ліпені хавалі...

Хай над табой схіляюць дрэвы вецце,
Хай птушкі гэтых дрэў не абмінаюць.
За добрае тваё на гэтым свеце
Цябе дабром, мой татка, памінаюць.

І ворная зямліца, і жывіца,
Й матуля, уся сівая, як зязюля,
І тая старадаўняя капліца,
Што маляваў Бялыніцкі-Біруля.

* * *

Сярод палёў бяжыць мая дарога.
Валошкі ў жыце, яблыневы сад —
Усё глядзіць даверліва і строга,
Пытаецца: «Ці вернешся назад?»

Апошні раз спынюся — азірнуцца;
Туман, бы сум, лагчыну ахінуў...
Ці ж я магла б ніколі не вярнуцца
У краі, дзе бацька мой навек заснуў,

Дзе маці у стракаценькай сукенцы
Немітусліва ходзіць па двары,
Вісіць партрэт дзіцячы мой на сценцы,
Стаіць мая калыска на гары?

Рачулка, лес...
Гляджу — не надзіўлюся,
Мне б гучна крыкнуць—ціхенька шапчу:
— Мой краю любы, я яшчэ вярнуся,
Як з выраю бусліха, прылячу.

## ДАЧУШЧЫНА ЁЛКА

Дачушчына ёлка,
што лепей не трэба —
Якія гірлянды,
якія шары!
А я ўспамінаю
святочнае дрэва
Далёкае,
пасляваеннай пары:
І рыбкі з кардону,
і яблычкі з ваты,
І з пафарбаванай
паперы сцяжкі.
Гасцей сустракалі
гасцінныя хаты,
Хоць час быў нялёгкі
і год быў цяжкі.
На свята збіраліся
блізкія людзі
І многа спявалі,
хоць мала пілі.

Тады медалі
упрыгожвалі грудзі
І звычным адзеннем
былі шынялі.
А дзеці ёсць дзеці —
ім хочацца ёлку,
Які ж Новы год,
калі ёлкі няма!
І мне з парашутнага
белага шоўку
Сукеначку мама
пашыла сама.
Скакала ля ёлкі я
ў новай сукенцы,
І, нібы матыль,
варушыўся мой бант.
І дзядзька жывым
ўсміхаўся на сцэнцы.
І чулася: Буг...
сорак першы... дэсант...
Пазней я забілася
моўчкі ў куточак,
Каб спаць не прагналі,
бо гэта ўначы,
І слухала
«Синенький скромный платочек»,
І бачыла слёзы
пажылых мужчын.
Ды мне разумець іх
тады было рана.
Я «Синий платочек»
і сёння спяю.
Падзякуем, дочка,
вайны ветэранам
За ёлку маю
і за ёлку тваю!

## ДВА БЕРАГІ

Адзін зусім круты,
Палажысты другі!
Ды плынь ім надае
Патрэбнае адзінства.
Ляглі на берагі
Бухматыя снягі.
Не чутны гоман хваль
Ракі майго дзяцінства.

Над берагам адным,
Пад наш дзяржаўны гімн
Усходзіць сонца шар,
Чырвоны, велізарны.
Плыве той самы шар
Над берагам другім,
Гучыць таксама гімн,
І будзіць ён казармы.

Па беразе адным —
Ідзе дзяўчо з вядром,
Малыя лепяць бабу
Пад заінелым клёнам.
На беразе другім —
Гудзе аэрадром,
Міргаючы вачыма
Чырвоным і зялёным.

Рытмічнае жыццё
На тым баку ракі:
Кароткія загады,
Чарговыя нарады...
На гэты бок ракі —
Гуляюць хлапчукі
У снежкі і ў хакей,
Зіме марознай рады.

Сягоння — ясны вечар
І зорны небасхіл,
А значыць, будуць зноў
Вучэбныя палёты:
Матораў дужы рык,
І свіст сталёвых крыл,
І нізенька, над самым
Дахам самалёты.

На беразе адным
Зусім не для вайны
Гадуем мы дзяцей,
Не для знішчальнай хмары.
На беразе другім
Хай вучацца сыны
Абараняць наш дзень,
Наш сон і нашы мары.

## ДЫЯЛОГ

«...трое сутак бралі сопку,
Што дыхала, нібы вулкан,
Дзе паміралі паасобку
І ўзводамі — ад немых ран:
— Па колькі, хлопцы, вам?
— Па дваццаць.
А камандзіру — дваццаць шэсць».

Аляксей Пысін

Далёка за спіной
З юнацтвам развітанне:
Стаміўся пільны зрок
Ад снежнай белізны.
Далонь маю трымаеш,
Нібыта ўратаванне,
Ды не змахнуць далоняй
Заўчаснай сівізны.

У нас свяцілы два:
І лямпачка пад столлю,
І сонечны прамень
З-пад веснавых аблок.
Ліюць яны святло
На сціплае застолле,
На ціхі наш з табой
Душэўны дыялог.

...Быў тонкі маладзік,
І першае спатканне,
І маміна пяшчота,
І мірнае жытло,
І ў гэтым ланцугу
Раптоўна —
Замыканне:
Парушаны кантакты,
Патушана святло.

Быў позірк маладзы,
Гарачы, як праменне,
Непаслухмяны чуб,
Адкрытая душа...
Суровыя гады.
Жахлівасць адступлення...
Пажары за Дняпром...
Крывавая шаша...

Успамінаеш бой
За плыткае азерца,
Равеснікаў сваіх
І палявы шпіталь...
Пад градам кулявым
Вы гартавалі сэрцы
І вытрымалі там,
Дзе не трывала сталь.

І ўсё-ткі — вечны бой!
Мы ўсе — на полі бою.
Нам прадаўжаць той спеў,
Што вы не davялі.
Мы — крэўныя з табой,
Мы звязаны крывёю
Тых хлопцаў маладых,
Што ў сопках палеглі.

Ты сам хадзіў у бой,
Быў сцягам аддзялення,
А мне, пасляваеннай,
Аб гэтым сняцца сны.
І гэты дыялог —
Размова пакаленняў,
Тваёй вясны ваеннай
І сённяшняй вясны.

...Дык вось мая далонь,
А з ёй — мая удзячнасць,
І гэтую удзячнасць
Не дай мне страціць, бог,
За нашу Перамогу,
За слоў нягучных значнасць,
За гэты наш з табой
Душэўны дыялог.

## БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ

Пад Магілёвам — Буйніцкае поле,
Як на далоні, на сямі вятрах.
Схіляю галаву з тугой і болем,
Развеяны тут Сіманава прах.

На камяні рудым —
яго аўтограф,
Тут сорак год назад прайшоў паэт.
Стралялі нашы,
і страляў наш вораг,
Ды не пакінуў час былых прыкмет.

Ад выбухаў дрыжаў лясок бязлісты,
Снарады выварочвалі карчы...
Пісьменнікі, паэты, журналісты
З блакнотамі і зброяй на плячы,

Па гліназёму травяных залысін
Поўз Сіманаў праз буйніцкі лясок,
І за лясок вось гэткі падаў Пысін
Пад Ліепаяй недзе на пясок.

Не прадказаць ваенныя дарогі,
Як не адвесці нечаканы стрэл.
І Сіманаў дажыў да Перамогі,
І Пысін, ён жывы яе сустрэў.

Наш родны край,
збалелы, абгарэлы,
Сваім радком праславілі яны.
Ды трапілі аднойчы ў сэрца стрэлы
З вайны, праз многа год пасля вайны.

Пайшлі ад нас паэты гордай долі.
...Натоўпам мірным плешча Магілёў.
Пад Магілёвам — Буйніцкае поле.
А колькі на зямлі такіх палёў...

## ТРЫЦЦІХ

### I

Калі спытаюць, колькі год,
Адказ мой будзе вельмі просты:
Год нараджэння — сорак шосты,
Пасляваенны першы год.

І партызанскія дымы
Патухлі ў пушчах беларускіх,
І аднаўляліся дамы
На мірных вуліцах Бабруйска.

І помнікам былых атак,
Гісторыі маўклівым сведкам
Навечна ў скверы, сярод кветак,
Спыніўся Бахарава танк.

Плыў гаркаваты пах травы
Па-над магіламі герояў.
Зямлёй накрытыя сырою
Спяць генерал і радавы.

А колькі дужых, маладых
Скасіў тут ашалелы вораг.
Героі неслі мір у горад,
І горад не забудзе іх.

У думках я каторы раз
Іх спіс гартаю паімённы.
Яны б цяпер жылі між нас...
Навекі праклінаю войны!

## II

Калі спытаюць, колькі год,
Адказ мой будзе вельмі просты:
Год нараджэння — сорак шосты,
Пасляваенны першы год.

Яшчэ не верылі ў спакой,
Былі кавалку хлеба рады,
І за Бярэзінай-ракой
Не-не ды рваліся снарады.

Спяшаўся хлопчык на урок
Цераз лужок, і раптам — выбух,
Вайны апошні, страшны выдых...
На міну трапіў незнарок.

Не чуць бы гэтай навіны
Старэйшым сёстрам, хворай маці.
Няма вайны, а цень вайны
Заўчаснай смерцю стаў у хаце.

Вось так было ў разгар вясны
З матуліным адзіным братам.
У мірны год і не салдатам,
А ўсё ж загінуў ад вайны.

Мяне насіў ён на руках.
Ён быў вясёлы і спакойны.
Яго я бачу толькі ў снах...
Навекі праклінаю войны!

### III

Калі спытаюць, колькі год,
Адказ мой будзе вельмі просты:
Год нараджэння — сорак шосты,
Пасляваенны першы год.

Хай не было яшчэ мяне
На свеце тым ваенным ранкам,
Ўвабрала памяць аб вайне
Я з малаком і калыханкай.

Нібы ішла ў агонь баёў
І я пад хрыплы роў гарматы,
І я выносіла салдата
З крывёй апырсканых палёў.

І стала чорнаю зямлёй
У зверску спаленай Хатыні,
Зямлёй няскоранай маёй,
Вышэй якой няма святыні.

І ўсё ж не ў сне, а наяву
На свеце вечным і бясконцым
Жыву пад шчодрым, ясным сонцам,
Пад мірным небам я жыву.

І ад імя бязмоўных, тых,
Хто вечнай памяці дастойны,
І ад імя ўсіх нас, жывых,
Навекі праклінаю войны!

## ПІСЬМЕННІКАМ-ФРАНТАВІКАМ

Жывіце, нашы родныя, даўжэй!
Мы адчуваем кожнаю крывінкай,
Як год ад году сэрцу даражэй
Зямля малой мурашкай ці травінкай.

Калі імпэт мінае малады
І сталасць строга
Стукаецца ў скроні,
Шануем больш аддана мы гады
І вашыя стамлёныя далоні.

Часцей чытаем вашыя радкі,
Што пазбаўляюць позірк наш сумнення.
Хоць розных моў радкі — яны палкі
Адной вялікай Арміі Сумлення.

І голавы схіляем мы ніжэй
У горкім жалі па заўчаснай страце,
І паўтараем шэптам, як закляцце:
— Жывіце, нашы родныя, даўжэй!..

## ВЕРА ХАРУЖАЯ

Запомніла вуліца
Гэта бабруйская
Імя дарагое
І голас яе,
І маці герояў —
Зямля беларуская
Той голас жывы
Праз гады пазнае.

Над кожным паверхам,
Над брукам абуджаным
Гучаць пазыўныя
Палаючых год:
«Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ.

Камусьці юнацтва
Інакшае ўспомніцца —
Павольныя вальсы,
Квітнеючы бэз...
Маё — камсамольскімі
Сходкамі поўніцца,
У ім — і суботнікі,
ЧОН
І лікбез.

Вітала ў баях
Пад бандыцкімі ружжамі
Я ўлады Савецкай
Жаданы прыход.
Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ.

О, шчасце — палаць
Хоць маленькаю іскраю
Ў кастры рэвалюцыі,
Гордых радоў
Яе не пакінуць
І стаць камуністкаю
Ў свае васемнаццаць
Дзявочых гадоў.

Дзяўчынка на выгляд —
Душою я дужая,
І броў маіх цёмных
Крылаты разлёт.
Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ.

Юнацтва... Падполле
Маё камсамольскае
З прамовамі ў вёсачках
І ў гарадах.
Трывога сяброў,
Што паліцыя гойсае,
За «Веркай» бясстрашнай
Ідзе па слядах.

І вера, што ты,
Беларусь мая мужная,
Не будзеш дзяліцца
На «захад» і «ўсход».
Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ.

І раптам — разлука
З лугамі стракатымі,
З журчаннем рачулак
І шумам дуброў.
Няволя.
Сем год
За турэмнымі кратамі,
І радасць адзіная —
Пісьмы сяброў.

Я слала на волю
«Запіскі асуджанай» —
Да сэрцаў людскіх
Палымяны зварот.
Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ.

Нарэшце —
свабода.
Вяртанне ў Савецкую,
Маю Беларусь —
Да радзімы, сяброў.
І раптам...
вайна!
Стрэлы, мова нямецкая,
Знявага і здзекі,
Пакуты і кроў.
Змагацца іду
За жыццё, што парушана.
Адпомсцім за мёртвых,
За ўдоў, за сірот!
Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
У бяссмертны народ».

Яе не забілі
Фашысты за кратамі.
Бо гэткае веры
Забіць не маглі.
Я крочу па вуліцы Веры,
І клятваю
Штокрок адгукаецца
Голас зямлі:

«Я — Вера, я — Вера,
Я — Вера Харужая,
Бяссмертная вера
Ў бяссмертны народ».
Над горадам, сонцам
І ветрам асмужаным,
Гучаць пазыўныя
Палаючых год.

* * *

Бывае, людзям вочы колюць крылы
Той птушкі, што народжана лятаць.
...Ну, што ж, бывай,
запознены мой мілы,
Маёй душы не змог ты разгадаць.

Не заламаю рук, не зарыдаю.
Гарыць агонь кастрычніцкіх рабін.
Я аднаго так горача жадаю —
Табе пакінуць светлы успамін.

Маёй жа ўцехай песня застанецца
З усім, што я любіла і люблю,
І ў небе з жураўлямі страпянецца,
І ападзе з іх крыкам на зямлю.

Такі мой лёс, пакуль хапае сілы,
Зямлю і неба песняю вітаць.
...А людзі...
людзі не аднімуць крылы
У птушкі, што народжана лятаць.

* * *

Я не баюся прастаты,
У вершы — ёй мая адданасць.
Бо часам нечая «складанасць»
Радок грымучы, ды пусты.

Радок з уплывам моднай школы,
Радок, пазбаўлены жыцця.
Не раптам знойдзецца дзіця,
Каб крыкнуць,
што кароль той — голы!

* * *

Здаецца іншым, лёгка мне даецца
Усё, што мне рабіць не давядзецца.
Што вельмі лёгка ў лёс чужы ўваходжу,
Што вельмі лёгка я сяброў знаходжу.
І лёгка вёдры поўныя нашу,
І лёгка вершы шчырыя пішу.
Здаецца іншым, лёгка мне жывецца.
Здаецца... і няхай ім так здаецца!

* * *

Снягоў блакітных чысціню
Па хмарах восеньскіх прадбачу.
Калі і чым за дабрыню
Вам, людзі добрыя, аддзячу?

Рабіна гордая стаіць.
Частуе ягадаю горкай.
Ад вас не буду я таіць
Той песні, што сціскае горла.

Ніводнай ноткай не зманю —
Ці засмяюся, ці заплачу.
Мо вам за вашу дабрыню
Я гэтай шчырасцю аддзячу.

## ЖАНЧЫНА

Не, нездарма калісьці Афрадзіта
Ступіла з пенных хваль
На дол каменны...

Адкінеш пасму ўпартую сярдзіта
Над воблакам гарачым мыльнай пены.
Прыбраць пакоі, перамыць бялізну,
Прыгатаваць абед найлепшым чынам,
Адпрасаваць пад вечар стос вялізны —
О, гэта ж так турботна — быць жанчынай...

Нальецца сокам сакавіцкім голле,
Святлом зялёным зноў успыхне лісце,
Задыхае абуджанае поле,
Табе ўсміхнецца любы, як калісьці.
А позірк твой бы з таямнічай дымкі —
Ці радасць, ці вясна таму прычынай...
Абдымкі, слоў пяшчота, зноў абдымкі.
О, гэта ж так салодка — быць жанчынай...

Асыпле лісце кволая асіна,
Закружыць снег, і пацямнеюць вочы.
Чакаць ты будзеш мужа альбо сына —
Жаночы лёс чакаць удзень і ўночы.

І колькі ж ты, цярплівая, чакала
З далёкай той, з Вялікай той, з Айчыннай,
Яшчэ і зараз гора ёсць нямала...
О, гэта ж так нялёгка — быць жанчынай.

Калі між зорак сын Зямлі імчыцца,
У тым бяздонні вобраз з ім любімы —
Прыходзіш ты бурштынавай пшаніцай,
Трывожнай чайкай, тонкаю рабінай,
Сунічнаю палянаю лясною —
Усім, што называецца: Айчына.
Жыві заўжды пад гэтым вечным небам,
І мірам будзь, і будзь святлом і хлебам,
Каханай, маці, жонкаю, сястрою,
Жаданаю жанчынаю зямною.

І знай, жыццё цвіце табой адною,
Дык ганарыся лёсам: ты — жанчына!

## КАРМЭН

Як смерч агністы, лёгкая спадніца.
Нібыта лёсу жорсткаму назло,
Кармэн танцуе. Пад нагой масніца
Уздрыгвае, як вузкае лязо.
Смяюцца зубы, пунсавеюць вусны.
На чорных косах белы цыкламен.
Як бліскавіца, позірк твой спакусны.
Танцуй, Кармэн!
                    Танцуй, мая Кармэн!
Танцуй, табе журыцца не да твару.
Абцасаў град і пошчак кастаньет.
Ты прынясеш жыццё сваё ў ахвяру.

Табе свавольства не даруе свет.
Хай хрысцяцца ілжывыя святошы.
Не разварушыш душ пляснявы тлен.
Тваю любоў ім не купіць за грошы.
Танцуй, Кармэн!
Танцуй, мая Кармэн!
То пеклам пагражаюць, то турмою
За рызыкоўнасць жартаў і прыгод.
Вакол цябе ліслівяю гурмою
Сяброўак мітуслівы карагод.
Яны табе хвалу спяваюць хорам
З жаноцкаю каварнасцю сірэн...
Наперакор зласлівым нагаворам
Танцуй, Кармэн!
Танцуй, мая Кармэн!
А той юнак, у захапленні смешны,
Які даўно ўжо з явай зблытаў сны,
Усё б аддаў за гэты танец грэшны,
За гэты пацалунак незямны.
Забрала розум і душу паэта,
Але кахання не дала ўзамен.
Няхай даруе ён табе за гэта.
Танцуй, Кармэн!
Танцуй, мая Кармэн!
Там за вуглом забойца апантаны.
Лязо нажа успыхне, як прамень.
І вырвецца з грудзей на брук
стаптаны
Тваёй крыві няскоранай струмень.
І будзе смерць ва ўсіх навідавоку.
І рэха гарадскіх каменных сцен
Падхопіць крык балючы твой...
А покуль
Танцуй, Кармэн!
Танцуй, мая Кармэн!

* * *

Бярэзіна ты мая белая,
Світальны туман у ляску,
Трава, ад марозу ссівелая,
Ды лодка на жоўтым пяску...

Бярэзіна ты мая чыстая,
Сумуюць твае берагі,
Што свята тваё прамяністае
Мінула, як сон дарагі.

Бярэзіна ты мая ціхая,
Шчэ вернецца наша вясна —
І сонца, і бусел з бусліхаю,
І радасць, і ўсплескі вясла.

* * *

Ты, толькі ты мае любоў і сум,
Адзін-адзіны ў думках і пакутах,
О, сіла рэк, ільдом сівым закутых —
Яе часцінку я ў сабе нясу.

На першы погляд — ціша і спакой,
Бяздумнасць, летуценная бяздзейнасць.
Упэўненасць, а не саманадзейнасць
Кіруе і валодае ракой,

Якая знае: ёй яшчэ цячы
І шчодра заліваць лугі і пожні.
Вось так і мне застаўся крок апошні
Да слёз шчаслівых на тваім плячы.



Святлом празрыстым набрыняла поўня.
Прыкметна ночы сталі карацей.
Чакае жыхароў сваіх шпакоўня,
Гаспадароў чакае — не гасцей.

Знікае тая горкая трывога,
Калі стаю пад сонечнай сасной.
Як птушка Фенікс з попелу сівога,
Так сэрца адраджаецца вясной.

Сяброўка, пойдзем пацямнеўшым борам.
Павер, жыццё клясці няма прычын.
Аб тым, што несур'ёзна — пагаворым.
Аб тым, што набалела — памаўчым.

Святлом празрыстым набрыняла поўня.
Ва ўсім перадвясновы неспакой.
Чакае жыхароў сваіх шпакоўня —
Драўляны сімвал дабрыні людской.



Хочацца вершаў шчымліва-шчаслівых,
Хочацца шчырых, узрушаных слоў.
Хочацца бачыць, як лавай бурлівай
Выйдзе Бярэзіна зноў з берагоў.

Зноўку лугі аж да лесу затопіць,
Леташніх траў развярэдзіць гніллё.
Лёгка імкліваю плынню падхопіць
Крыгі, бярвенні, сухое галлё.

Схопіць і човен трухлявы без вёсел
І панясе, панясе, панясе...
Колькі было іх, нястрыманых вёсен.
Кожнай сябе аддаеш пакрысе.

Кожная шэпча, што толькі аднойчы
Свет запаўняе сабою любоў,
Толькі аднойчы ў вясновыя ночы
Рэкі выходзяць з сваіх берагоў.

## ПАВОДКА

На беразе, быццам госці,
Прыціхлі ўрачыста клёны.
Стаю на высокім мосце,
А вецер — такі шалёны.

Віруе вада-гулёна,
Ізноў на рацэ паводка.
Ці то мне ад слёз салёна,
Ці то мне ад мар салодка...

Стаю і гляджу ў бяздонне,
Забылася нават, дзе я...
А сонейка на далоні
Нязгаснае, бы надзея.

* * *

Цёплы вецер разносіць салому,
Ходзіць воблак, ружовы ад сну.
Чуеш, любы, вясновыя бомы?
Пойдзем, любы, сустрэнем вясну!

Пойдзем, любы, туды, дзе паводка
Абудзіла дрымотны спакой.
Сёння нам асабліва салодка
Да рукі дакранацца рукой.

Сёння можа нам нават падацца,
Што пазбытыя крыўды і злосць,
Што яшчэ не згарэла юнацтва
І наперадзе — ўся маладосць.

* * *

Не таю ад цябе — ты не першы
Абудзіў невыказныя сны.
Я дашлю табе гэтыя вершы,
Як жывое дыханне вясны.

Мы дарэмна так доўга хавалі
Трапяткія пачуцці свае.
Непрыкметна з вясноваю хваляй
Назаўжды маладосць адплыве.

Толькі сэрцу няма адпачынку.
Мо таму яно песняй гучыць,
Каб дачушку, малую дзяўчынку,
Захапляцца жыццём навучыць.

* * *

Смалістыя сосны ў вадзе па калена.
Паводкавы лес не магу не любіць.
Імя тваё — з грэчаскіх міфаў, Алена.
Алена павінна прыгожаю быць.

І сэрца твае, і малая далонька
Яшчэ ў прадчуванні жыццёвых трывог.
Не можаш ты нат уявіць сабе, донька,
Як многа на свеце нялёгкіх дарог.

Як шмат перашкод на сцяжынах імкненняў.
Ды ведай, маленькая, як там ні ёсць,
Жыццё—ланцужок непаўторных імгненняў,
І ў кожным імгненні — свая прыгажосць.

Усюды яе разнастайныя з'явы:
Вось ранак туманны... вось сонечны дзень...
Дзіцятка бяжыць аляняткам смуглявым...
Праз сосны да сонца выходзіць алень...



Ад дрэва, дзе птушачка ценькае,
Кладзецца няўпэўнены цень.
І чуецца песня прасценькая,
Лунае над борам «цень-цень».

Я ўсё разумею без слоўніка.
Адліга — ў птушкі «цень-цень».
«Цень-цень» — пацяплеўшае сонейка.
«Цень-цень» у яе — добры дзень.

«Цень-цень» — гэта значыць, ёй верыцца,
Што век векаваць не адной.
«Цень-цень» — гэта значыць, ён вернецца.
Вяртаецца шчасце вясной.

«Цень-цень» дачакаюся з выраю,
Звінела яна нада мной
З такою надзеяю шчыраю,
Што я пазайздросціла ёй.



Як перніка мядовага ласун,
Як век журботны радаснай падзеі,
Так і распусны малады лясун
Чакаў спакуснай вербнае нядзелі.

Каб тыя двое збочылі з шашы,
Каб падалося ім, што пакахалі,
Каб стаў нячутным шэпт гарачых шын
І свечкі на вярбе не патухалі.

А з гушчару, з далёкага стаўка
Яны на схіле вербнае нядзелі
Вярталіся. Была ў руцэ рука.
І толькі вочы ў вочы не глядзелі.



І ластаўка з-за мора прыляцела.
І верыцца, што хутка шчасце прыйдзе.
Я на цябе пакрыўдзіцца хацела,
Ды не знайшлося ў сэрцы месца крыўдзе.

Ізноў смяюцца вочы залатыя,
І новая хусцінка мне да твару,
Глядзяць суседкі строга, бы святыя.
Сяброўкі — з жалем, быццам на ахвяру.

Я ж паўтараю зноў замілавана
Праз час нанова знойдзенае слова.
Як лёс мой перасеклі нечакана
Гарыстыя завулкі Магілёва!



Дзе снег сышоў, там леташнія травы
Да сонца падымаюць галаву.
Свае ў цябе цяпер сям'я і справы,
І я інакшым клопатам жыву.

А памяць шэпча доўгімі начамі,
Што і мы калісь шчаслівыя былі.
Лясы нас верасовыя вянчалі,
Вятры нам вераснёвыя гулі.

З нябёсаў гусі нам крычалі «горка».
...З тае пары, мой любы чалавек,
Людской неміласэрнаю гаворкай
Імёны нашы звязаны навек.



Узніме сонца вогненныя крылы,
Прачнецца дзень — прыгожы, малады.
На ласку шчодры ён, як ты, мой мілы.
Дык будзь такім сягоння і заўжды.

Шуміць мая Бярэзіна напеўна,
І думаю пад музыку вады,
Што я на свет народжана, напэўна,
Любіць цябе сягоння і заўжды.

Шмат усяго за нашымі плячыма.
У памяці падзеі, гарады...
Жыць без кахання проста немагчыма.
Любі ж мяне сягоння і заўжды!

Каханнем, тым,
што напаўняе грудзі
Нам радасцю на доўгія гады,
Уся зямля асветлена,
каб людзі
Жылі на ёй сягоння і заўжды.

* * *

Растае за самалётам
Раскалмачаная ніць.
Не ўвабраць у сэрца песень
Тых, якімі лес звініць.

І ў бары яны сасновым,
І ў бярозавым гаі.
Усміхаецца вяснова
Нават строгае ДАІ.

Ды і як тут не ўсміхацца:
Пацалунак — цераз плот.
Ёй, суседцы, васемнаццаць,
А суседу — дваццаць год.

Будзе шумнае вяселле,
Будуць шчодрыя сталы,
Як бярозавік настояць
Пачарнелыя ствалы.

## БЯРОЗЫ

Бярозы, беларускія бярозы,
Птушыных зграй шумлівае жытло,
Выток маёй паэзіі і прозы,
Майго акна нязгаснае святло.

Абпаленыя жудаснай вайною,
Аблітыя смугою дажджавой,
Дзе б ні была я —
Ўсюды вы са мною
Гісторыяй і песняю жывой.

Вясной гаючай хмельнаю вадою
Бярозавік прасочыцца ў душу...
Шкада, не вечна быць мне маладою,
Не вечна слухаць лісця ветлы шум.

Надыдзе міг, балючы і цвярозы,—
Збудуюць мне апошняе жытло.
...Бярозы, беларускія бярозы,
Не згасне ваша вечнае святло.

* * *

Мы — дзеці вандроўнага веку.
Наш лёс — скрыжаванні дарог.
Ды трэба ў жыцці чалавеку
Адзін запаветны парог.
Чым можна суняць — невядома —
Усё хваляванне душы,
Калі да бацькоўскага дома
«Папутка» імчыць па шашы.

Шафёру падзякую, злезу
І раптам убачу з гары
Ліловае зарава бэзу,
Якім наваколле гарыць.
Папрок сабе хуценька кіну —
Не часта пісала лісты.
...Я рукі шырока раскіну,
Нібы абдымаю кусты,
Што гронкі духмяныя туляць,
І ў сэрца прасочыцца май.
— Дзень добры, сястра і матуля!
— Дзень добры, мой бэзавы край!

* * *

Люблю Дзвіну і Нёман, Сож і Піну,
Мілей за ўсё — Бярэзіны блакіт,
Дзе запаветны востраў, нібы кіт,
На красавіцкім сонцы грэе спіну.

Ізноў дарога, вечная дарога
Вядзе мяне праз далі і гады.
А мы з табой сустрэнемся тады,
Як за плячыма застанецца многа

Квітнеючых садоў, палеткаў снежных,
Жаданых і няпрошаных сустрэч.
І ўсё ж на свеце (вось якая рэч!)
Сустрэцца мы павінны непазбежна.

Мне аб табе няспынна шэпчуць шыны,
Сустрэчны вецер ціхенька пяе...
Калі запаліць ягады свае
Агнём чырвоным дзікі куст
шыпшыны

І лістапад дыван свой адмысловы
Засцеле над Бярэзінай-ракой,
Маўкліва ты сустрэнешся са мной.
А можа, будуць словы,
словы,
словы...

## ЗНАЁМЫ МАТЫЎ

Абдымеш матулю, сястрычку цыбатую,
Адзвоняць апошнія чаркі і шклянкі,
І грымне гармонік за крайняю хатаю
Знаёмы матыў — «Развітанне славянкі».

Сяло наша ведае розныя маршы.
У войска ж праводзячы, граюць адзіны,
З якім яшчэ дзеды адважныя нашы
Хадзілі ў баі за свабоду радзімы.

...Застыне дзяўчына на ўзгорку бярозкаю,
Па хатах разыдуцца госці з гулянкі,
І доўга шчэ будзе кружыцца над вёскаю
Журботны матыў — «Развітанне славянкі».

Як мужнасць усіх, што калісь адыходзілі,
Што йдуць і што будуць яшчэ адыходзіць.
Як светлая вера ўсіх тых, што праводзілі,
Што зараз праводзяць і будуць праводзіць.

Дзе б ты ні служыў,
Даляціць к табе з ветрам
Рамонкавы пах запаветнай палянкі,
І срэбнай струной зазвініць у паветры
Далёкі матыў — «Развітанне славянкі».

Радзіма мая ад Чыты і да Рыгі
Жыве непагаснаю марай аб міры —
І жоўтыя дзюны,
і белыя крыгі,
І вечназялёныя кедры Сібіры.

Нашчэнт хай араты варонкі знішчае,
Няхай лебядой зарастаюць зямлянкі,
Хай мір і спакой на зямлі абвяшчае
Адвечны матыў —
«Развітанне славянкі».

* * *

Адбітак-месяц залатою ружай
Упаў з нябёс на чорную ваду...
Дзяўчынка урадзілася дасужай
Сабе на клопат, маці на бяду.

Так пасталела б мо і пастарэла,
Блукаючы паміж дабром і злом.
Але цяпер, калі цябе сустрэла,
Ўсё іншым азарылася святлом.

Я стану самай лепшай, самай дужай,
Такой другой не знойдзеш ты нідзе.
...Адбітак-месяц залатою ружай
Пагойдваецца ціха на вадзе.

## ЛІСТ СЯБРОЎЦЫ

Мые лета навальнічнае
Ў садзе яблыні старыя.
Ты цяпер ужо сталічная,
Ну, а я — з перыферыі.

Рэдка зараз сустракаемся.
Што па тым па тэлефоне —
Пагукаем, павітаемся —
Ні пагляду, ні далоні.

А калі трывожна хмарыцца
Неба ліпеньскае ўверсе,
Як табе жывецца-марыцца
На дванаццатым паверсе?

Тут за хатай гай калышацца,
Рэчка лашчыцца, гарэза...
Як табе жывецца-пішацца
Між бетону і жалеза?

Пабягу у поле цёмнае
На спатканне з маладосцю.
Прывітае жыта цёплае
Гаспадыню, а не госцю.

Калі раптам сцежка згубіцца,
Павядзе начная зорка.
...Як табе жывецца-любіцца,
А ці соладка, ці горка?

## ТАНЦЫ

Быў клуб нам галоўнейшым цэнтрам,
І мы ў ім кружылі не раз
Пад скрыпачку з польскім акцэнтам
То польку з прысядам, то вальс.
У клубе было цеснавата,
Падлога ўгіналася ў такт,
Ды танцы былі нам, як свята.
Скажыце, што гэта не так!
Патухне святло, дык газнічка
Была на выпадак такі.
Кароткая ночка, як знічка,
Канала ў лугах ля ракі.
...Грыміць навальніца аркестра,
Ды цуда чакаю дарма.
Святла ўжо даволі і месца.
Тапочуць — а свята няма.

* * *

Ліловыя званочкі ля ракі —
Здаецца, зазвіняць, як дакрануся.
Між каласоў сінеюць васількі
Пяшчотныя, як вочы Беларусі.
Рамонкі асыпаюць на мяжу
Цнатлівыя пялёсткі снегавыя,—
Па іх, нібы дзяўчынка, варажу.
Па сцежках незабытных я хаджу,
Схіляюся і ціхенька кажу:
— Дзень добры, кветкі,
кветкі палявыя!

* * *

Учора рэчка пела і смяялася,
І промень ззяў над роўнаддзю вады.
Смяяліся і мы, і мне здавалася,
Што мы з табою разам назаўжды.

Гулі чмялі вясёлыя на верасе,
І воблак лёгкім ветразем бялеў,
І бусел падышоў да нас на беразе,
Нібы падносіў шчасце на крыле.

Як нас паляна вабіла сунічная,
Як човен плыў бязгучна па вадзе...
А сёння хваля пераднавальнічная
Трывожна і пагрозліва гудзе.

Няўжо ж сустрэча стане выпадковаю,
Бясследнаю, як пыркі ад вясла.
Няўжо была наіўна-памылковаю
Даверлівасць цыбатага бусла...

* * *

Як чуйныя крылы збянтэжаных чаек,
Трывожныя бровы мае.
...Разлука напоўніла сэрца адчаем —
О, як мне яго не стае.

Зайздрошчу яго неспакойнаму лёсу
Да іншай зямлі адплываць.
А мне — заставацца, як жоўтаму плёсу,
Як гэтаму плёсу чакаць.

Я выйду на бераг,
дзе вольныя хвалі,
Я буду чакаць давідна.
О, хвалі, вы ж лодку маю калыхалі,
Калі ў ёй была не адна.

Зноў думкі мае,
як нябачныя ніці,
Да іншых імкнуць берагоў...
Каго вы забралі, мне, хвалі, вярніце,
Вярніце мне, хвалі, любоў.

## РАБІНАВЫЯ НОЧЫ

Каханне, нібы позірк бліскавіцы,
Не зловіш, не стрымаеш у руцэ.
...Рабінавыя ночы, навальніцы,
Успененыя хвалі на рацэ.

А як сляпілі вочы тыя ночы,
А як яны кружылі галаву.
І ціха белы шалік мой дзявочы
Пяром лябёдкі падаў на траву.

* * *

Дыван стракаты, казка-лугавіна,
Касы прамень, даверлівасць рукі...
Адзін мой бераг — толькі палавіна,
Два берагі патрэбны для ракі.

І чэрвеня спякотнае дыханне,
І трапяткое ластаўкі крыло,
І прыкры боль нявернага кахання —
Усё гэта было... было... было...

І сум знаёмых стрэх, ад пылу шэрых,
І горкіх траў знясіленая злосць...
Ён вабіць зноў,
Той супрацьлеглы бераг,—
Загадка вечна вабіць маладосць.

* * *

Промні з промнямі страчаюцца,
Утвараюць невады.
Прыпаду рачною чаіцай
Да дняпроўскае вады.
Зачарпну прыгоршчы поўныя —
Мне б ды смагу наталіць,
Мне б хадзіць
хадой нястомнаю,
Мне б любіць —
не адлюбіць.
Бераг з берагам злучаецца
Праз пясчаныя брады.
Покуль лета не канчаецца,
Што мне плёткі,
што гады?!
...Б'е крылом рачная чаіца,
Рве праменні-невады.

* * *

Свеціцца цьмяным рубінам
Зорка пад назваю Марс.
Часта сустрэча з любімым
Робіць прыгожымі нас.

Гляну ў люстэрка — здзіўлюся,
Вочы, што ліпеньскі мёд.
Шчасцю свайму усміхнуўся —
Лёгкія бровы ўразлёт.

Душнаю ноччу не спіцца...
Любы, адкуль ты такі?
Вочы заплюшчу — прысніцца
Дотык пяшчотнай рукі.

Веру салодкай няпраўдзе.
Рэўнасць, як снег, растае.
Падаюць яблыкі ў садзе.
Мроіцца — крокі твае.

* * *

З галінкі яблык глуха ападае,
Бо час яго прыйшоў, бо ён паспеў.
А я яшчэ такая маладая,
І лёс мяне пакрыўдзіць не паспеў.

Як нізка да зямлі галіны гнуцца.
Прыемны дрэву гэты іх цяжар.
— Каб не маглі
з табой мы размінуцца,
Гараць уночы зоркі, нібы жар.

У кожнай зоркі ёсць свая арбіта.
І калі дзве перасякуцца з іх,
Абедзве зоркі ўспыхваюць, нібыта
Усё жыццё чакалі гэты міг.

Яшчэ мне будзе радасна і горка
На скрыжаванні нашых дзвюх арбіт.
Мо й сэрцайка маё, як тая зорка,
Згарыць датла і сыдзе ў нябыт.



Зорка глядзела на свет,
 быццам цікаўнае вока.
Хмурыўся месяц над ёй,
 як залатое брыво.
І пад гармонік стары
 скардзіўся недзе далёка
Голас, што сцежкі чыесь
 пазарасталі травой.
Песні даўно не чуваць,
 мо сапсаваўся гармонік.
Людзі скасілі траву,
 людзі ўзаралі папар.
Новыя сцежкі ляглі.
 Толькі над вёскай, як помнік
Светлай юнацкай журбе,
 жмурыцца зорка з-за хмар.

* * *

Любіцельскія здымкі — не партрэты
Хаваю я на памяць аб сябрах.
А ты, так выпадкова мной сустрэты,
Няўлоўны, нібы той блакітны птах.

Нядоўга я была з табою побач,
Ды ў сэрцы назаўжды застаўся ты.
Прэч сум былы, бывай былая роспач!
Плывуць па хвалях лёгкія плыты.

І плытагон, смуглявы ад загару,
Смяецца і махае мне рукой.
Падаравала лета сэрцу мару.
Ці восень прынясе яму спакой...

* * *

Мой лес, кірмаш мой каляровы,
Што ліст кляновы — што рубель.
Тут быў мой ветразь папяровы,
Тут плыў драўляны карабель.

Тут і прайшло маё дзяцінства
З арэхам-рэхам ля ракі,
З святочным водарам гасцінца
Ад цёплай матчынай рукі.

Пад гукі нашай простай мовы —
Ад іх знікалі боль і злосць.
Мой лес, кірмаш мой каляровы,
Мой шлях з маленства ў маладосць.

## У ДАРОЗЕ

Задрамлю — схамянуся знянацку —
Што за дзіўнае дрэўца ў акне?
Быццам восень цудоўную цацку
Рыхтавала даўно для мяне,

Бачу, сонца павольнае тоне
У мядзяным люстэрку ракі.
Ходзяць лугам грывастыя коні —
Пэўна ж, згубіць падкову які!

Да спаткання, іржышча сухое
І у сонечных яблыках сад.
Хай жа згіне навекі ліхое —
Я з падковай вярнуся назад!

* * *

Мядзяны колас долу хіліць жыта,
Птушыны спеў над возерам дрыжыць.
Не шмат пражыта — многа перажыта.
А колькі давядзецца перажыць...

Жыццё маё, кастром з сухога вецця
Гары на ўсіх сямі вятрах, не тлей.
Я так хачу пражыць на гэтым свеце,
Каб стала ў ім хоць крышачку святлей.

А лёс такі не кожнаму даецца.
Не ў кожным сэрцы гэткіх сіл стае.
І як сланечнік у неба не імкнецца,
Да сонца галавой не дастае.

...Абрусам сінім неба разаслана.
Гарыць каліна — не згарыць датла.
Дала матуля мне імя — Святлана,
Нібы часцінку вечнага святла.

## АСЕННЯЯ ПЕСЕНЬКА

Асенні дожджык па страсе шапоча,
Як бабін кот, ліслівы абармот,
Так ціха, так лагодна, быццам хоча
Пазбавіць ад усіх маіх нягод.

Ў равесніцы дыплом і сын вялікі,
А я ж усё падручнікі нашу,
Кантрольныя раблю, здаю залікі
Ды вершы летуценныя пішу.

Мне б чырванець пад «горка» на вяселлі,
А я ўсё незалежнаю хаджу.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ў сентыментальнай песеньцы асенняй
Ўсе мае словы. Музыка дажджу.

* * *

Гойдае голле
Лагоднае зорку начную.
Песню кахання
Шчаслівая птушка пяе.

Дзень надыходзячы
Светлай усмешкай пачну я,
Ў сэрца глыбока
Схаваўшы трывогі свае.
Трэць ужо веку пражыта,
А зроблена мала.
Хутка пара
Развітання з юнацтвам прыйшла.
Пэўна, спытаеш,
Чаго я па свеце блукала,
Што я шукала, спытаеш,
І што я знайшла?

Шчасця шукала,
Кахання шукала такога,
Каб, нібы птушцы,
Мне голас і крылы дало.
Сумных і радасных —
Розных сустрэч было многа.
Толькі кахання
Такога ў мяне не было.

Дзень надыходзячы
Светлай усмешкай пачну я,
З гэтага дня
Буду жыць для цябе аднаго.
...Гойдае голле
Блакітную зорку начную
Ў цёмных карунках
Лагоднага ценю свайго.

* * *

Наш горад спіць, дажджом закалыханы,
Вільготным голлем ледзь калышуць слівы.
Жыві на свеце доўга, мой каханы.
Даруй за ўсё. Жыві і будзь шчаслівы.

Мне зноў не спіцца. Стукаецца ў сэрца
Запозненага роздуму трывога.
Не, позна давялося нам сустрэцца,
Табе — твой шлях, а мне — мая дарога.

Я знаю, мне чакаць цябе не варта.
Ды і табе шукаць мяне не трэба.
...Чацвёрты дзень бязгучна і упарта
Па нечым плача восеньскае неба.

* * *

Каханнем ты перахварэў.
На сэрцы прысак. Згаслі словы.
І вершаліны цёмных дрэў
Гайдае вецер вераснёвы.

Журботна, як замшэлы млын,
Шуміць стары мой клён над дахам,
І сонца падае ў палын
Знясіленым, падбітым птахам.

Яго крывавае крыло
Афарбавала луг і хвалі...
Каханне, дзякуй — ты было.
Каханне, дзякуй — мы кахалі.

Не трэба роспачы і слёз.
Ад іх цяпер няма карысці.
Ён шчодры, чалавечы лёс,—
Каханне прыйдзе зноў калісьці,
Так голле голае бяроз
Вясной прачнецца ў новым лісці.

* * *

Я знаю, ні песняй тваёй, ні загадкай,
Ні марай юнацкаю я не была...
Імчыць цябе «Ява» дарогаю гладкай,
І вецер упарты не вырве з сядла.

Усыпала гэту дарогу прамую
Знямелага лісця чырвоная медзь.
Чаму без цябе гэтак горка сумую,
Няўжо без цябе мне і шчасця не мець?

Магчыма, ты — проста мая адзінота,
Жаданне схавацца ад блізкіх завей.
А можа, ты — тая высокая нота,
З якой памірае пявун-салавей.

* * *

Жыве мая бабуля на фарштаце,
Жыве ля самай рэчкі, на гары.
Блукае зайчык сонечны па хаце
Ды сцеле лісцем сцежку клён стары.

Ў душы — удзячнасць сонечнаму лету
За гоман хвалі, за духмяны сад.
І не пытай, ці скора я прыеду.
Бывай, бывай, Бярэзінскі фарштат.

Знямелых дрэў трывожнае чаканне,
Пажоўклых траў і кветак забыццё.
Тут і прыйшло жаданае каханне
На светлы міг, а мо й на ўсё жыццё.

А мо за жаўталістай мітуснёю,
Калі пачнецца першы снегапад,
І гэты міг пакажацца хлуснёю.
Бывай, бывай, Бярэзінскі фарштат.

Зямлі нікуды ад зімы не дзецца.
Крык жураўліны над журбой палёў.
Я ведаю, што мне не давядзецца
Да спаленых вяртацца караблёў.

Да той шчакі
мне больш не дакранацца,
Мой лістапад, пара смугі і страт.
Вось і аўтобус з нумарам «трынаццаць».
Бывай, бывай,
Бярэзінскі фарштат.

## ДОМА

Мякчэй няма за матчыны падушкі,
А ўжо не сплю, не сплю ў такую рань.
На тым акне ружовая герань.
Над тым акном гняздо вясёлай птушкі.

Яно было адзінае на свеце,
Як поціск рук тваіх, як твой пагляд.
Ўсё гэта больш не вернецца назад.
Я разумею гэта. Толькі вецер,

Як апантаны, ходзіць па іржышчы,
І гойдае над дахам правады,
І ўсё шукае даўнія гады
Сярод забытых рэчаў на гарышчы.

## ЛІСТАПАД

Якая восень — сум і прыгажосць,
Спакой і смутак, золата і чырвань.
Вось-вось гатова адляцець у вырай
За жураўліным клінам маладосць.

Хай лістапад. Я веру, што мяне
І заўтра будзе радаваць світанне,
Што светлае і вечнае каханне
Мой неспакойны лёс не абміне.

Не вабяць ні вядомасць, ні рублі,
Усё аддам адзіным дзвюм патрэбам —
Сумленна жыць пад родным мірным небам,
Любіць усё жывое на зямлі.



Шумі, вячысты клён —
Зялёныя арэлі,
Шумі, як у мае
Дзіцячыя гады.
Гудуць твае галіны,
Нібы правады,
Яны за гэты час
Амаль не пастарэлі.

Аб чым спяваеш ты,
Мне дарагое дрэва?
Па кім у хмарны дзень
Дажджамі плача восень?
Не ўсё ў маім жыцці,
Як марыла, збылося,
Ды толькі шкадаваць
Мяне зусім не трэба.

Шумі, мой волат-клён,
Хай прылятаюць птушкі,
Сярод тваіх галін
Гадуюць птушанят.
Як добрую далонь,
Апусціць лістапад
Твой ліст на галаву
Маёй малой дачушкі.



Апошняя лісцёвая агонія
У запусценні восеньскіх садоў.
А на акне чырвоная бегонія
Палае да зімовых халадоў.

Маленькі куст
з пяшчотнымі пялёсткамі,
Вяртае лета пах знаёмы твой,—
Павее раптам каласамі роснымі,
І хваляю, і цёплаю травой.

Няхай гараць твае пялёсткі-пацеры,
Каб водар лета ў сэрцы не пагас.
...Так дарагі і мілы вобраз мацеры
Душу дзіцяці абуджае ў нас.

## ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗКІ

Кувала зязюля
У лісцях бярозкі,
Што крылы смыляць,
Што баліць галава.
І срэбрам звінелі
Зязюльчыны слёзкі,
Зязюльчыны слёзкі —
Лясная трава.

...Гарачае лета,
Спякотнае лета.
А душныя ночы
Усё карацей.

Не трэба зязюлі
Ні дому, ні дзетак.
Куды ж ты, зязюля,
Ад родных дзяцей?

Бо я — маладая,
Зусім маладая.
Я прагну любові,
Я волі хачу.
У гнёзды чужыя
Дзяцей падкідаю.
Куды захацела —
Туды палячу.

Лятала-лятала,
Стаміліся крылы.
Ды сэрцу спакою
Яна не знайшла.
І раптам паклікаў
Куточак той мілы,
Дзе юнай была,
Дзе гняздзечка віла.

Успомніла дзетак.
Гукала-гукала,
Адказу чакала,
Ды толькі дарма.
Дарма дарагое
Гняздзечка шукала —
Ні дзетак няма,
Ні гняздзечка няма.

А там, на узлеску,
Паводдаль ад вёскі,
Дзе дрэвам карэнні
Спляла мурава,

Звіняць на дасвецці
Зязюльчыны слёзкі,
Зязюльчыны слёзкі —
Лясная трава.

* * *

Пойдзем, любы, ноччу ў гаі
Слухаць салаўя.
Ды ў кожнага салоўкі
Песенька свая.

Пойдзем, любы, як на згубу,
Зоркі зіхацяць.
Злыя людзі пагаворадь,
Добрыя змаўчаць.

Толькі марна я чакаю
Ноччу на рацэ.
Спіць салодзенька другая
На тваёй руцэ.

Льецца пошчак салаўіны,
Срэбны ручаёк.
Не салоўка ў гаі плача —
Сэрцайка маё...

* * *

Не, не, на картах я не варажу.
Даўно начамі доўгімі не плачу.
І на спатканні ўвечар не хаджу,
Я нат у снах і то цябе не бачу.

За тое, што было і не было,
Адсумавала, адбалела сэрца.
І шмат вады з тае пары сплыло,
А я баюся зноў з табой сустрэцца.

Баюся гэтай стрэчы не таму,
Што мне яна здаецца небяспечнай
(А раптам разгублюся, абдыму
І прашапчу скрозь слёзы: «Мой навечна»).

Не, больш за ўсё баюся я таго,
Што абыдуся фразаю адчэпнай,
І мара часу даўняга майго
Мне здасца раптам смешнай і нікчэмнай.

* * *

Палосы ценю і святла
Дрыжаць на снезе.
Я гэтак доўга не была
Ў зімовым лесе.

Я гэтак доўга не піла
Яго паветра.
Не чула дзіўны гул ствала
Пад моцным ветрам.

Я нават памяць не ўзяла
Сюды з сабою.
Я гэтай восенню жыла
Адным табою.

Цяпер бывай! І праз гады
Не патрывожу.
Цябе губляю назаўжды.
Сябе знаходжу.

* * *

Дрыготкі цень танцуе на сцяне.
Дачка паварушылася спрасоння.
Прыходзіць ноч, і з ёю да мяне
Ізноў прыходзіць звыклае бяссонне.

Дачушка спіць. Я працягну далонь,
Пагладжу ціха шоўк дзіцячай грыўкі.
...Па дроўцах скача трапяткі агонь,
І путаюцца дум маіх абрыўкі.

Апошні датлявае вугалёк.
Я асцярожна дзверцы прычыняю.
Твой позірк адчуваю я здалёк
І ў гэта цвёрда верыць пачынаю.

За шыбай свята снежнага святла.
З ім марыцца трывожна і упарта.
І радасць, што сягоння абышла,
Абавязкова не абыдзе заўтра.



Начны званок раптоўным стрэлам
Тапельца воклічам з вады:
— Хачу, каб ты мяне сустрэла
На нашым месцы, як тады!

Гулі, як вены, правады,
І глуха кроў у скроні біла...
— Хачу, каб ты мяне любіла
Сягоння, заўтра і заўжды!

Да адзіноты прывыкаю.
Хаваю крыўду. Боль цярплю.
...Навошта ж зноў цябе чакаю,
І ненавіджу, і люблю.

Душой нязломная ў бядзе,
У шчасці зноў раблюся слабай.
Стаю вось смешнай снежнай бабай.
А снег ідзе...
А снег ідзе...



Самотны вецер ходзіць ля вады.
Бярозамі асветлена світанне.
Нам прысудзілі доўгае расстанне,
А дні ідуць марудна, як гады.
Расстанне, варажы — не варажы.
А на душы, як некалі, трывожна...
Пераступайце, людзі, асцярожна
Гняздо маленькай птушкі на мяжы.

* * *

Падзякуйце жанчыне за любоў,
Якой з маленства маці нас вучыла.
Лясных звяроў жанчына прыручыла.
Падзякуйце жанчыне за любоў.

Не звон манет, не хцівы шэпт рублёў,
(Не змераеш тут мерай аніякай) —
Адна любоў павінна быць падзякай.
Любоў. Любоў. І сто разоў любоў.

* * *

Калі пяе завея за плячыма
І замятае чэзлыя сляды,
Хай кажуць мне: сустрэцца немагчыма—
Знай, я цябе чакаю і тады.
Калі гняздо старанна ўе сініца,
Калі цвіце чаромха ля вады,
Хай іншы твар табе начамі сніцца —
Знай, я цябе чакаю і тады.
Калі грымяць рабінавыя ночы
І пахам мёду дыхаюць сады,
Хай не мае цябе хвалююць вочы —
Знай, я цябе чакаю і тады.
Калі ў пажоўклым голлі плача вецер
І над асфальтам стогнуць правады,
Хай ты не для мяне жывеш на свеце —
Знай, я цябе чакаю і тады.
Я іншы лёс і ў марах не шукаю.
Калі ж аднойчы раптам праз гады
Пачуеш ты, што больш я не чакаю,—
Знай, я цябе чакаю і тады.

# ЗМЕСТ

**Басуматрава С.**

Б 27 Кветкі палявыя: Кн. паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1985.—71 с.

30 к.

«Кветкі палявыя» — другая кніга паэтэсы. Тут працягваецца і паглыбляецца тэма першага зборніка — вайна і мір, узаемасувязь чалавека і прыроды, роля і прызначэнне жанчыны ў грамадстве.

Кніга напоўнена любоўю да роднай зямлі і яе людзей.

Б $\frac{4702120200—029}{М\ 302(05)—85}$ 48—85 ББК 84Бел7 Бел2



СВЕТЛАНА МИХАЙЛОВНА БАСУМАТРОВА

**ЦВЕТЫ ПОЛЕВЫЕ**

Книга поэзии

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак В. А. Сцефановіч. Мастацкія рэдактары В. П. Жыжэнка, А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 2116. Здадзена ў набор 25.05.84. Падп. да друку 10.11.84. АТ 06644. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,63. Ум. фарб.-адб. 2,85. Ул.-выд. арк. 2,73. Тыраж 2300 экз. Зак. 459. Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.